# Падарунак Беларускаму Жаўнеру.

**Выданьне Беларускай Вайсковай Камісіі.**

Друкарня Інвалідаў
Менск
1920.

# БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ!

Шмат вякоў Ты у чужацкай няволі, шмат крыўды і зьдзеку перанес Ты многапакутны народ. Чужынцы правілі на тваёй зямлі, а Ты, гаспадар нашай Бацькаўшчыны, быў парабкам.

Чыя нага не таптала Тваіх ніваў, чыя рука не руйнавала Тваіх хат! А Ты моўчкі зносіў крыўды, цярпліва чакаў лепшых дзён.

Лепшыя дні пачаліся: наш прыяцель — Начальнік Польскай Рэспублікі — Язэп Пілсудзкі — даў згоду прадстаўнікам Тваім, каторыя у імені Тваім, Беларускі Народзе, працуюць на супольную нашу карысьць, — згоду на фармаваньне аружнай сілы — **Беларускага Народнага Войска.**

З вялікай радасьцю пасылаем Вам — браты аб гэтым вестку.

Мы калісьці былі слаўным народам. Мелі сваю слаўную Дзяржаву — Гаспадарство. Увесь сьвет аб нас ведаў! Нашыя землі былі вольнымі і незалежнымі. Мы былі **гаспадарамі** на сваёй зямлі.

**Волю, свабоду, незалежнасьць непадзельнасьць нашай Бацькаушчыны — Беларусі** мы можам зрабіць сягоньня — аружнай сілай нашых сыноў, нашых братоў, любячых сваю родную зямельку.

Ворагі нашы бальшавікі — маскоўцы і маскоўскія гэнэралы — Дэнікіны націскаюць на нашую зямельку: яны хочуць завясьці у нашым краі свае маскоускія парадкі.

Бойцеся браты-беларусы гэтых парадкаў!

Зьдзек і няволю прынясуць яны нам.

Толькі тады, калі мы самі парупімся аб сваёй долі, толькі тады, калі з аружжам у руках мы абаронім сваю Бацькаўшчыну ад чужынцаў, тады толькі мы можам пабудаваць свае лепшае сьветлае жыцьцё.

Нашыя месты Магілеў, Вітэбск і Смаленск да гэтага часу знаходзяцца у чужацкай няволі.

Трэба вызваліць іх!

Трэба выгнаць нашых заклятых ворагаў з нашай зямлі!

Нашая Маці-Беларусь павінна быць **Вольнай, Непадзельнай і Незалежнай!** Браты Беларусы! Хто можа з вас трымаць стрэльбу ў руках — станавіцеся ў рады нашага **Беларускага Народнага Войска для абароны нашай Бацькаушчыны!**

Моладзь наша краса і надзея!

Завем цябе у беларускае войско!

Бацькаўшчына наша заве сваіх верных сыноў.

**БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ КАМІСІЯ.**

# Мы доўга цярпелі--цярпець больш ня можам!

## Няхай жыве Беларускае войско.

Самай вялізарнай праявай помачы Польшчы у справе адбудовы беларускай дзяржаўнасьці ёсць ніжэй паданы дэкрэт Начальніка Польскай Дзержавы аб формаваньні беларускага войска:

„Узяўшы пад увагу дэклярацыю Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны ў справе формаваньня беларускага войска пад глаўным польскім камандаваньнем дзеля барацьбы з усходнім захватнікам, якая пададзена мне 28 ліпня г. г., а таксама падобныя да гэтага заявы Менскіх Беларускіх грамадзянскіх організацыяў, спаўняю гэту просьбу і загадываю формаваньне беларускіх аддзелаў на гэтакіх асновах:

Беларускія аддзелы формуюцца з ахвотнікаў. Дзеля гэтага ў кожным вярбункувым бюро на абшары Беларускіх зямель будзе адзін камісар, або афіцэр і адзін пісар—беларусы.

Палкоўніка Г. Канапацкага, запрапанаванага мне Беларускай Вайсковай Камісыяй, назначаю камандзірам беларускага войска.

Месцом фармаваньня беларускага войска назначаю Слонім.

Дзеле організацыйнай і прыгатаваўчай работы назначаю Беларускую Вайсковую Камісыю, якая ў паразуменьні і Камісарыятам Усходніх Зямель і D. O. G. будзе організаваць беларускае войска:

1) даючы адпаведныя наказы палк. Канапацкому і

2) утвараючы адпаведныя падкамісіі.

У склад Камісіі ўваходзяць: палк. Канапацкі, п. Рак-Міхайлоўскі, штабс-капітан Кушэль, п. Аляксюк, палк. Якубоўскі, п.п. Мурашко, Аўсянік, Прушынскі, штабс-капітан Якубоўскі.

Месцам працы Камісіі назначаю Менск. Бел. Вайск. Камісіі даручаю зорганізаваць: пэрсональную (кваліфікацыйную) і рэгуляміновую (статутную) падкамісіі.

Гэткім парадкам з момэнту падпісаньня загаду Галоўным Камандуючым Польскіх Войск Язэпам Пілсудзкім, верым, пачнецца запраўды арганізацыя Беларускага Войска. Пачнецца організацыя нацыянальнай збройнай сілы, тэй сілы, якой беларусы дабіваліся, пачынаючы з першага зьезду пасьля рэволюцыі ў Расіі, якой дамагаліся на ўсіх зьездах агульна-беларускіх і вайсковых. якую тварыць урачыста пастанавіў Усебеларускі Конгрэс 1917 году. Пачынаецца сапраўды тварэньне тае нацыянальнае сілы, якой дабівалася яшчэ Беларуская Рада ў Вільні, якой дамагаўся Беларускі Зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны ў чэрвені, 1919 г. якой дабівалася ўвесь час Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны,—настала часіна, якой чакалі і жадалі, аб якой тужылі усе з Беларускай зямлі, звольненай польскім войскам ад бальшавікоў.

Войско—гэта залог будаваньня свайго гаспадарства. Войско у нас павінно быць шчыра-нацыянальным. Ніякая Дэнікінская ці Колчакоўская орыентацыя не павінна знайсьці ў ім месца. Гэткага элементу трэба сьцерагчыся ў Беларускім Войску. Арганізаваць сваё нацыянальнае войско мы павінны ўзіраючыся на тое, як тварылося нацыянальнае войско ў Польшчы, Літве, Латвіі, Эстоніі і Украіне (Петлюра).

Нашая Бацькаўшчына Беларусь—гэта цяпер ужо край, каторы сапраўды жадае свайго незалежнага гаспадарства і мы павінны і можам сварыць сваю нацыянальную армію і мы яе створым. Створым яе такую, што яна будзе ваяваць проці ўсіх непрыяцеляў нашае Бацькаўшчыны,—ці гэта будуць бальшавікі, ці Дэнікін.

## Салдацкіе песьні.

I.

*Як выправілі на вайну.*

Выправіла сына маці
Родны край адваяваці.
А пры гэтым загадала,
Каб у бітвах быў удалы.
„Бо, сыночку, калі не,—
Не варочайся ка мне."
Раз, два тры.
Ад зары і да зары
Будзем біцца
Весяліцца.
Бацька з сынам разлучыўся
І пры гэтым засмуціўся:
„Я—няшчасны, бо старэнькі
Ты шчасьлівы-маладзенькі.

# І ты, што жыцці рвешся-Беларусам завешся!

Будзеш край свой ратаваць
І за долю ваяваць."
Раз, два, тры і г. д.
Жонка з мужам разьвіталась,
Моцна з ім расцалавалась.
І казала: Будзь гяроем,
Будзь адважным, сьмелым воем.
Каб ня дзеці,—я з табой
Разам-бы пашла у бой".
Раз, два, тры і г. д.
Удаленькага хлапчыну
Выправіла ў бой дзяўчына.
І пры гэтым зашаптала:
„Калі хочаш, каб кахала
Ад чужынцаў барані
Волю нашае зямлі."
Раз, два, тры.
Ад зары і да зары
Будзем біцца;
Весяліцца.

II.

Ой, ня кукуй, зязюленька,
На дубочку.
Ой, ня сумуй, матуленька,
Па сыночку.
За родны край за волячку
Сын твой бьецца
За лепшую за долячку
У бітву рвецца.
Ен ня чытае пацеры
У пакуце;
Ен не сядзіць пры мацеры
У родным куце.
Душа яго жывенькая
Да малітвы
А сіла маладзенькая
У полі бітвы.
Ен прынясе для матанькі
З бітвы поля
Падарачак багаценькі
Долю-волю.

## Камандуючы беларускага войска, палк. Канапацкі аб формаваньні беларускага войска.

Палк. Канапацкі сказаў у справе формаваньня беларускага войска больш-менш вось што:

Пачатак будаваньня арміі — глаўным чынам будзе падгатоўка кадраў, як афіцэрскіх, так і падафіцэрскіх. Дзеля гэтага цяпер-жа ўсе афіцэры організацый Горадзенскай і Віленскай, а так сама і зарэгістраваныя у Менску, па разгляду іх дакумэнтаў кваліфікацыйнай падкамісіяй, будуць залічаны ў рэзэрву і павінны праслухаць паўтарыцельныя афіцэрскія курсы і курсы беларусазнаўства, а асабліва беларускую мову і ператалумачаную камандную і вайсковую тэрміналёгію; праслухаўшы курсы, кожны з іх адтрымае становішчо ў формаваным войску.

Адначасна з гэтым і, калі будуць ужо падгатоўлены тэхнічныя вярбунковыя апараты ў паветах, будуць набраны ахвотнікі, якія адпавядаюць патрэбным варункам, ў школу падафіцэраў.

У школу падафіцэраў, магчыма што пры патрэбе і на афіцэрскія курсы, будуць прыкамандзіраваны некалькі спецыялістаў з польскай школы дзеля тэхнічных паказаў вайсковай муштры і азнаямленьня з апошнімі дасканальнасьцямі вайскавога дзела. Тыя-ж маладыя людзі, якія яшчэ ня маюць афіцэрскай рангі і хочуць яе адтрымаць калі яны адпавядаюць патрэбным варункам, могуць быць камандзіраваны ў школу падхарунжых у Варшаву, гдзе ўжо нам абяцано утварыць беларускі плютон; па аканчаньні гэтай школы яны займуць становішчы курсавых афіцэраў ў нашых падафіцэрскіх школах і магчыма, што нават ў нашых падхарунжовых школах, якія пры першай магчымасьці будуць так сама адчынены.

Праз увесь гэты час ў паветах будзе ісьці падгатаваўчая праца—набор дабравольцаў, якія будуць пакліканы пры формаваньні кадраў. Спачатку будзе формавацца і нейкая конная часьць.

Хуткасьць правядзеньня ў жыцьце формаваньня войска будзе залежаць глаўным чынам ад работаздольнасьці Вайсковай Камісіі і яе падкамісіяў, а таксама і ад тых адносін польскай улады, ў паразуменьні з якой па загаду Начальніка Польскай Дзяржавы прыдзецца працаваць Вайсковай Камісіі і камандаваньню беларускімі аддзеламі.

# Няхай жыве Пагоня на браме Незалежнай Беларусі!

## Гутарка з сябром Беларускай Вайсковай Камісіі П. Алексюком.

На рад нашых пытаньняу п. Аляксюк сказау вось што:

Вялікае дзело будаваньня нашай нацыянальнай Арміі стаіць на цьвёрдым і пэўным грунце.

Наагул трэба прыдаць вялізнае значаньне гэтаму дэкрэту Начальніка Польскай Дзяржавы з боку агульна-палітычнага. Гэты акт пекна гаворыць аб тэй шчырапрыязнай нам палітыцы, якую вядзе Галава Польскай Дзяржавы; ен праконывае ў яго здэцыдаваным рашэньні памагчы беларускаму народу здабыць незалежнае істнаваньне.

Шмат ў гэтай справе залежыць і ад нас: трэба зусім рашуча уразумець наша палажэньне і выразна сказаць, што толькі у цеснай лучнасьці з маладой Польскай Дзяржавай, толькі ў супольнай працы, будаўніцтве і барацьбе з супольнымі ворагамі, пагражаючымі нашаму істнаваньню мы дойдзем да сваей канешнай мэты: адбудаваньня Беларусі. Гарантыяй гэтага будзе Пілсудзкі і наша армія.

Вайсковая Камісія мае дзьве найважнейшыя мэты: вярбоўка жаўнера—ахвотніаа і нацыянальнае гадаваньне войска. І тое, і другое заданьне яна будзе выпаўняць, стоячы цьверда на грунце нацыянальным і памятуючы што справа ня ў колькасьці таго элемэнту, які ўвойдзе ў армію.

Афіцэрскі, асабліва падафіцэрскі склад —гэта цэмэнт арміі. Камісія будзе пільнаваць таго, каб не праніклі да нас нашы ворагі, або кар'ерысты, каторых нічога ня вяжа з беларускасьцю. Самая шырокая агітацыя вайсковай справы на нашай вёсцы, навадненьне яе брашурамі, адозвамі і іншым друкаваным матэр'ялам—будзе так-сама нашым важным заданьнем.

Армія беларуская—і ніводнага слова ў камандзе з першага момэнту яе жыцьця ня будзе у чужацкай мове. Усе беларускае: каманда, статуты, дзелаводства.

З гэтай мэтай спэцыяльная падкамісія дужа інтэнсіўна працуе над перакладам на беларускую мову усіх патрэбных статутау. Часьць з іх ужо гэтымі днямі пачне друкавацца.

Мы будзем працаваць побач з польскай уладай вайсковай і цывільнай, і трэба зусім шчыра сказаць, што наша шырокая работа будзе магчыма толькі пры шчырасьці і прыхільнасьці да яе гэтай улады. Я цьверда веру, што гэта будзе так, што шчырае жаданьне Я. Пілсудзкага будзе праводзіцца на мясцох. Мы не заплющчываем вачэй на тую сільную опозыцыю, якую спаткаем у колах „тоже белоруссов", якія будуць варочаць тэрмінамі „польская интрига", „польская армія".

Нам гэта не страшна: сялянство хутка зуазумее дзе праўда; мы прымем усе меры, каб адкрыць праудзівую скуру гэтых паноў і, сьмею Вас заверыць, паводзем з імія самую рашучую барацьбу.

# Дзесяць прыказаньняу для беларускага жаунера.

I.

Калі ты праваслаўны,—ня думай, што ты расіец. Калі ты каталік,—ня думай, што ты паляк. Ведай, што ты беларус, і гавары ўсюды толькі пабеларуску, бо гэта—твая родная мова, мова тваіх бацькоў і дзядоў. Хто саромеецца сваей роднай мовы, той ня сын свайго краю, той нявольнік у чужых і здрайца свайму народу. Твой край, народ і мова ня горшые за іншые краі, народы і мовы.

II.

Шануй гонар і волю Беларусі. Будзь шчырым абаронцам сваей зямлі. Сьмела вайюй з тымі, хто хоча забраць тваю гасподу. Калі хочаш сам быць гаспадаром сваей працы, дык ты павінен, як усе іншые народы, не баючыся сьмерці, са зброяй ў руках пайсьці на ворага, каторы забірае тваю зямлю. А калі пабаішся сьмерці і пусьціш ворага да сябе, дык ён заваюе твой край, і ты ў яго, як парабак пойдзеш на сьмерць, бараніць чужые інтарэсы, як ты і дагэтуль праліваў кроў за чужых.

III.

Ты павінен зразумець, што воля—гэта ня ёсьць грабаваць, адбіраць чужую ўласнасьць і ня слухаць разумнейшых людзей. Хто гэтак робіць—даводзіць свой край да голаду і няшчасьця, паганіць сваё імя і дапамагае няволі. Праўдзівая і разумная воля робіць у краі парадак, папраўляе дабрабыт усіх людзей, каб яны былі ўсе роўные, сытые і добра адукаваные і каб карысталі самі з сваей працы. Гэта можа быць толькі тады, калі адважна будзеш ваяваць.

# ЗА БАЦЬКАЎШЧЫНУ ГЭЙ НАПЕРАД!

IV.

Ты павінен быць гордым і шчасьлівы тым, што стаіш пад Беларускім Нацыянальным Сьцягам, што ты ўзброены дзеле таго, каб стаяць за роўнасьць Беларусі з другімі народамі зямлі. Сваю беларускую славу ты павінен бараніць да апошняй кроплі крыві.

V.

Ты павінен памятаць, што тваё ўласнае шчасьце і шчасьце ўсяго Беларускага Народу—ў тваіх руках. Ты павінен быць шчырым і верыць ў сваю праўту, ў сваю сілу, зразумець, што ты ня горшы за ўсіх і маеш права жыць сваім асобным жыцьцём. Але гэтага кожны народ дабіваецца сілай, каторая і ёсьць у цябе.

VI.

Памятай, што праз доўгіе вякі толькі цяпер наступіў момант, калі можаш называцца Беларускім жаўнерам, калі можаш класьці фундамэнт для новага жыцьця Беларусі і быць самім сабою. Калі цяпер прапусьціш гэты момэнт, дык потым сам праклянеш сваё гаротнае жыцьцё пад чужацкай няволяй.

VII.

Калі хто з ворагаў беларускай справы зьвернецца да цябе з салодкімі словамі і скажа табе: Будзь, як і быў дагэтуль, пад цёплай апекай Расіі, ці якога іншага народу, дык ня вер яму—гэта твой найгоршы вораг. Гэта—адзін з тых, каторые дагэтуль цябе трымалі ў няволі нацыянальнай, смакталі тваю крывавую, потную працу і ты быў гноем для яго народу. Ня вер яму, бо ён хоча мець цябе за парабка і надалей. Шануй тых з чужых народаў, якіе шануюць і цябе, як Беларуса.

VIII.

Калі хто з тваіх таварышоў пачне цяяе падбухторваць, каб перайсьці да варожага стану, дык твой сьвяты абавязак справядлівага чалавека, шчырага жаўнера і вернага сына Беларускай зямлі, адвярнуцца ад яго з агіда,й бо ён здрайца. Здрайство—гэта самая найвялікшая подласьць і гідасьць, каторая нішчыць краі і народы. За здрайство павінна быць самая цяжкая кара.

IX.

Твой начальнік—гэта твой брат і таварыш па службе. Ён такі-жа салдат, як і ты. Толькі па сваёй адукацыі вайсковай ён, як спэцыяліст, паказывае табе, што рабіць. Калі ёсьць дысцыпліна, ёсьць парадак. Дысцыпліна і асьвядомленнасьць кожнага салдата — галоўная аснова пабеды. Наша прыказка кажа: без правадыра войско гіне.

X.

Кожны беларускі ваяка, ад звычайнага радавога да гэнэрала, павінен памятаць, што ён, — *абаронца незалежнай Беларусі,* — адзін з найлепшых грамадзян роднай зямлі і займае самае пачэснае месцо ў грамадзянстве.

Падаў **З. Бядуля**.

## Слово праўды аб мове і долі беларуса.

Ці ты знаеш, мой браце,
У якой жывеш хаце,
У сямейцы, народзе,
Ў краю, дзенно сьвятло дзе
Першы раз ты убачыў,
Дзе табе Бог празначыў
Жыць, багаціцца ў цноты, —
Ці ты ведаеш, хто ты?
Беларусяй завецца:
Край, дзе цяжка жывецца,
Край пауночна-заходны.
Але ўласны твой, родны.
Вось і ты, што жыць рвешся,
Беларусам завешся.
Дык-жа ведай аб лёсе
Продкау, як ім жылося.

I.

Над Дняпром, Нёмнам, Сожай
Над Дзьвіной—з волі Божай,
Як даносіць паданьне,
Тут жылі усе славяне:
Крывічы, Радзімічы,
Шмат Дрыулян, Дрыгавічы.
Трэба ведаць вашэці,
Аднае мовы дзеці,
Аднаго і звычаю
Ўсе былі ў гэтым краю.
Закладалі сялібы
Блізка рэк, каб мець рыбы,
У лясох і на полі,
Каб мець зьвера даволі,
Хлеба, ягад і мёду.
Убажалі прыроду:
Небо чцілі, як бога,
У асобе Сварога,
І яго палавіцу
Маць-Сырую Зямліцу,
І дзяцей іх: Дажбога,
Сонца, Ветра-Стрыбога,
Пяруна-бога грому,
Дамавога—у дому;
Лясуна, Ражаніцу,
Вадзяного, Дзявіцу,
Што Русалкай у рэчцы
Бурыць хвалі, сьмяецца.
Нават Волас-бог скоту
Меў у іх пашаноту;
Пры агні на Купальлі
Ладу чэсьць аддавалі.
Ім даваліся ў знакі
Упыры, ваўкалакі...
Чары, заламы, ўрокі
Ўплыў тут мелі шырокі.
Упраўляліся вечам;
Бараніліся мечам,
Дубіной ды сякерай.
Ў сьвітцы белай, ці шэрай
Самадзельнай адзеты,
Жыў прыветна люд гэты,
Між сабой не сварыўся

# Няхай жыве незалежная, непадзельная і вольная Беларусь!

І паволі так зжыўся.
Што зышоўся род з родам
І адным стаў народам.
Жывучы так, памалу
Ен крапчэў, рос і хвалу
Здабываў між чужымі,
Зьмір трымаючы з імі.
Пад разумным загадам
Мену вёў з Цараградам,
Багацеў і шчасьлівы
Лук ня гнуў с-пад цяцівы.
Меў сваіх ваяводаў,
Дык і ворагаў ходаў.
Меў князёў на загады,
Веча сходку на рады.
Іх суд мудры і правы
Вёў краёвыя справы
Бяз супрэчак і звадак,
Панаваў скрозь парадак
Узмацаваны новай
Правай верай Хрыстовай
З Рыму і з Цараграду.
Ужо Сварога і Лада
Адракліся ў хрышчэньні.
Праўды Божай праменьні
Асьвяцілі люд кволы.
Сталі цэрквы, касьцёлы,
Пры бязкроўнай ахвяры
Ніклі ўрокі і чары,
Прападала і ліха.
І жылося скрось ціха.
Так было ў час спакойны.
Але вось сталі войны.

II.

Мусе ён бараніцца,
З злосным ворагам біцца.
І парой нешчасьлівай
Гнуўся лук пад цяцівай,
Выпускаючы стрэлы;
Меч блішчэў заржавелы,
Зіхацелі сякеры.
Ўстаў нарсд, поўны веры
І адвагі да бою
З неспакойнай Літвою.
Мужна, храбра змагаўся,
Але ўрэшце паддаўся
І згубіў сваю ўладу.
Да Літоўскага Ўраду
Нас судзьба далучыла.
Але згодна і міла
Сталі жыць два народы.
Іх князі, дзеля ўгоды,
Нашу мову зрабілі
Дворскай ёй гаворылі,
Ў ёй ўставы пісалі
І судэ адбывалі
Слаўны статут Літоўскі
І паргамін князёўскі,
Аж дагэтуль ёоць сьведкам,
Як было нашым прэдкам.
Кніжкі рознага зьместу
Служаць знакам протэсту
Нагалоскам хвальшывым,
Нашай мове манлівым
Дык цьвіла наша мова.
Друкаванае слова
Ў ёй лілося, шырэла
І што раз багацела.
Але вось наступае
Стрым і мова жывая,
Што была у пашане
На другім стала пляне.

III.

Князь Ягелла з Ядвігай
Ажаніўся із лігай
Гэтай княжага роду
Зьвязь накінуў народу,
Што трываў нзеалежна.
Польшча з Літвай сумежна
Пад Ягеллы загадам,
З'ядзініліось Урадам.
Вось Літва хоць і мела
Свайго князя, малела
Тут аднак яе ўлада;
І ўжо рада, нерада,
Хоць таго і нежадала,
Вольны быт свой губляла,
Але усё-ж Ягельлёны
Ад Літвы суд—законы
Адабраць не пасьмелі.
Мы падаўняму мелі
Свой Статут і ў судовай
Справе нашаю мовай
Натаваліся факты
І пісаліся акты.
Каралі па ўстанове
Ў той-жа ўрадавай мове
Выдавалі указы
Да Літвы, каб абразы
Не зрабіць ёй і шкоды.
Доўга з гэтай свабоды
Край наш цешыўся міла.
Аж нікчэмная сіла
Політычнага права
(Чэсьць ёй, гонар і слава.)
Адабрала нам мову,
Ў судзе нашаму слову
Аднялі уладаньне.
Надыйшло ўжо кананьне
Нашай мове прыгожай.
Допуст быў волі Божай.
Мова родная Польшчы
Загарнула ўплыў больш.
Усюды ёй гаварылі
Па суход, станавілі
На Літве ў ёй законы.
Ўсіх цягнуў бляск кароны.
Вось князі ды баяры
Мілай Польшчы ў ахвяры
Склалі родную мову,
Ўзяўшы лепшую, нову;
А старая у вёскі
Выйшла ронючы слёзкі:
У сялян засталася
На даунейшай прыкрасеў.
Іх тагды прастакамі

# Стварайце Беларускае войска—для гэтай ідэі варта жыць!

Сталі зваць, мужыкамі,
Дык і мова іх клічкай
Зьвецца простай, мужыцкай,
Зносіць некалькі векаў.
Біч пагарды і зьдзекаў.
Адракаюцца ў прочкі
Йдуць сынэ яе а дочкі.
Нават самі сяляне,
Калі пан скоса гляне,
З мінай проста, пакорнай
Прывыкаюць да дворнай,
А чураюцца роднай
Як мужыцкай, нягоднай.
Ў ёй ня можна судзіцца,
Мець законы, маліцца;
Яна ў хаце такеля
Польшчына-ж у касьцелі
І ў судох, і ў абрадах,
У каралеўскіх пасадах.
Дык і робіцца гэтак:
Каталік вучыць дзетак
Пацяр не у сялянскай
Мове роднай, а ў панскай.
Гэна мова сьвятая,
А свая—праклятая,
Вось па гэтым манеру
Ен пачаў сваю веру
Польскай зваць, сябе польскім,
А аб родным, аб свойскім
Беларускім забыўся:
Збочыў з простай дарогі,
У брыдкія налогі
Ўпаў, йдучы за пажадай,
Ці чартоўскай нарадай.
Пакрывіўшы сумленьне
У сільлё засьляпеньня
Ўблутаў простае сэрце:
Меў жыцьце у паняверцы,
Пад свой стрых усё мерыў.
Богу нават ня верыў;
Калі-ж нораў свой сказіў,
Па кутох цемры лазіў:
Стаўся горш забабонным.
Да нячысьціка склонным,
Верыў ў заламы, чары,
Мок у хмелістай гары,
Быў на пропасьці рубі,
А ня ведау аб згубі
Розум цёмны, як сажа.
Ці-ж ня праўда, хто скажа?
Ня было а нікога,
Хто бы вывеў сьляпога
На пуць—шлях з бездарожа,
Што скрывіла нягожа
Бедака, і калекам
Ен астаўся век-векам.
Шляхта-ж сэймікавала,
З цьвёрдым сэрцам, як скала,
Сны сьнючы аб кароне
На залочаным троне.
Ей было не ў паміне
Аб сьляпым селяніне,
Што ня знаў льгі ніколі
І стагнаў у няволі.

Часам хто з панскай лавы,
Счуўшы голас сьлязавы
Бедакоў чужанінаў,
Слоў за іх колькі кінуў
На сэймовай прамове.
Але судзьдзі панове
Нават чуць не хацелі,
Каб сляпцэ вольнасьць мелі.
Так цягнуў крыўды лямку,
Зямсту крыючы ў цямку,
Селянін набарака.
Прытварыў ваўкалака
І благую кляў долю,
Зубы сьцяўшы ад болю.

IV.

Але Рэч Паспаліта,
На тры часьці расшыта,
Перайшла да суседаў.
Беларус ужо ведаў,
Што па новаму ўстрою
Ен астаўся з Літвою
Пад Расійскім урадам.
Думаў: пойдзе ўсе ладам,
Тут дастане свабоду
Для сябе і народу.
Але где-ж там? Адразу
Па найвышшаму ўказу
Мовы польскай такеля
Ужываць у касьцеле
Беларускай—ніколі.
У пачаткавай школе,
Гэта мова брыдкая
Меўсца такжа ня мае.
Ў чужой мове, ні ў роднай,
Вучаць ў школцы народнай.
З буквароў непанятных
Дзетак, часам ні здатных
Зразумець словы ў сказе.
Аж пад скурай жуд лазе,
Калі здумаеш гэта,
Як ішла ў нас прасьвета.
Ў царкве ўсім праваслаўным
Модлы, сьпеў давен-даўным
Былі ў мове славянскай,
А ў расійскай, у панскай
Гаварылі казаньні.
Беларускай і званьня
Ня было. Слово Божа
Разумець кожны можа;
Беларус, хоць і слухаў,
Але ў цям сабе чухаў
І даходзіў дагадкай,
Што у мове у гладкай
Да яго прамаўлялі,
Да душы не траплялі
Непанятныя словы.
Пакрывіўшы наровы,
А, не знаючы меры,
Ўзяў старыя манеры;
У хваробе у горы
Льгі шукаў ў загаворы,
Шаптуном нес багацьце.
У вадно, у паняцьце

Змесьціў веру й народнасьць.
Чалавечая годнасьць
Стала ў ём абніжацца,
Спаняверыўся матцы.
Вось у розуме вузкім
Называў сябе рускім,
Як і веру. Забыўся
Ўжо аб тым, кім радзіўся.
Ня было-ж а нікога,
Хто наўчыў бы дурнога.
Толькі людзі навукі,
Бедных бачучы мукі,
Мову іх прабавалі,
Песьні, казкі зьбіралі,
Ўсе гуслы, забабоны,
Прымавіскі, праклёны.
Укладалі з іх біблі,
Каб сьвет ведаў, як гіблі
Бедакі беларусы,
Моў Лабяне, ці Прусы
У падвойнай няволі
Жывучы, лепшай долі
Доўга, доўга чакалі
У жыцьця мутнай хвалі:
Але суджана мусі,
Больш трываць Беларусі.
Шмат сыноў яе верных
У высілках надмерных,
Ў беднай мове мужыцкай
З пекнатой поэтыцкай
Напісаныя творы
Друкавалі і ў горы
Ўсім бяздольным пад стрэхі,
Несьлі слово пацехі.
Ў дзевятнастым сталецьці
Пасьвятлела на сьвеце.
Пад агульным наклонам
Люд растауся з прыгонам
І зара лепшай долі
Заясьнела паволі.
Беларус стаў свабодным
І на полі на родным
Ўжо сабе збожо сеяў.
Ад паноў дабрадзеяў
Адышоў назаўсёды.
Хоць крыху асалоды
Меў, што вольным астаўся.
Ўжо бядак ня чўраўся
Роднай дзедавай мовы
Ўвёў у хаце лад новы,
Уздабыўся ў дастак,
Заплаціўшы падатак,
Але усё-ж і ў час гэты,
Ў роднай мове газэты
Ані -кніжак ня мелі.
Парасійску такеля,
Ды папольску чыталі,
Так жыцьце каратал
Беларускія дзеці.
Аж ў дваццатым сталецьці
Тысяч дзевяцьсот пяты
Год, разрухай багаты,
Ўсім прынёс луч свабоды.
Маніфэст усе народы
Ў правах роўных паставіў,
Ад пярэсьляду збавіў.
Вось і нашая мова
Пачала жыць нанова.
Вышла з друку газэта,
Кніжка. Вестачка гэта
Край усьцешыла вельмі.
Ўсім з вачэй зышлі бельмы.
Спазірнулі усюды
Несься голас прабуды,
Ўсіх склікаў да работы.
Моладзь поўна ахвоты,
Працавала найболей.
Карыстаючы воляй
Слова роднага ў друку,
Па газэтнаму згуку
Песьнярэ прыбывалі,
Смутны сын апавялі
Айчыны—Беларусі.
Дык ня суджано, мусі,
Ей, гаротнай, загінуць.
Кожан можа прыкінуць
Жменьку працы ў ахвяры
На народным аўтары.
Беларусь родну маці,
Трэба ўсім шанаваці,
А пасьлед добры будзе.
Усьвядомяцца людзі,
І збудуюць дом новы.
Для спрадвечнай іх мовы.
Беларускае імя
Сьцяг свой ўласны падыме,
І убачаць на сьвеце,
Што і мы жывем, прэце,
Што заглянуло сонцо
І у наша ваконцо.

* * *

Дык жыві-ж, родны краю,
І цьвіці, як у маю
Краска ў лузе зялёным
Поўным зерня на ніве
Хай бруняе шчасьліве
Плен народнай прабуды
Ў Беларусі паўсюды.
Хай жа роднай мова
Аджыве і нанова,
Узрасьце, закрасуе,
Гонар, славу пачуе
Ад людцоў ўсяго сьвету...
Вось табе праўду гэту,
Беларусь, мілы браце,
Я здалеу разказаці,
Знай свой край родны, хто ты
І багацься у цноты.

**А. Зязюля.**

З дазв. вайск. цэнзуры № 22, 11/XII. Менск. Друкарня Інвалідаў.

